2 Станет ли слонимский парк местом отдыха?

3 Депутаты отменили решение исполкома




# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

№25 (158). 15 — 21 чэрвеня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 80 руб.




# ДАЎГАБУД, ДЗЕ КАЛЕЧАЦЦА ДЗЕЦІ



**У панядзелак, 12 чэрвеня, у 17-30 у хуткую медыцынскую дапамогу Слоніма патэлефанавалі людзі і сказалі, што з 10-метровай вышыні даўгабуда, які знаходзіцца на Брэсцкай вуліцы, упаў 14-гадовы хлопчык Максім і моцна пакалечыўся.**

Машына медыцынскай дапамогі даставіла пацярпеўшага ў бальніцу. Яго памясцілі ў рэанімацыю. А праз некалькі гадзін хлопчыка прааперыравалі.

На другі дзень карэспандэнту "ГС" дактары сказалі, што аперацыя прайшла добра, але Максім знаходзіцца ў цяжкім стане. Тым не менш, хочацца спадзявацца, што хлопчык ачуняе.

Гэта, як кажуць, свежы факт, пасля якога паўстае некалькі пытанняў. Толькі каму іх адрасаваць? Відаць, найперш гарадскім уладам. Бо менавіта на тэрыторыі Слоніма ўжо шмат гадоў мазоліць вочы гэты недабудаваны гандлёвы цэнтр. Такіх даўгабудаў у нашым горадзе некалькі. Але найбольшую небяспеку нясе гэты. Побач школа, вакол вялікі і густанаселены мікраёен, дзе шмат дзяцей, якім няма чым заняцца і няма куды пайсці. Вось і гуляюць яны на гэтых развалінах. Дарэчы, наша газета пра падобнае ўжо пісала (гл. "ГС" ад 6 траўня 1999 года). Але з таго часу нічога не змянілася. Даўгабуд на Брэсцкай вуліцы паранейшаму даступны для ўсіх. Там і прыбіральню зрабілі, і піўнушку, і начлежку, і калецтвы, як бачым, там таксама здараюцца. Дзе гарантыя, што праз пэўны час там нешта накшталт падобнае не адбудзецца зноў? Калі ўжо ўлады закансервіравалі гэты аб'ект, то няўжо ў бюджэце не знайшлося грошай, каб абгарадзіць будоўлю альбо паставіць вартаўніка?

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Выкід хлору быў, але, на шчасце, без наступстваў

**У мінулую пятніцу, 9 чэрвеня, на тэрыторыі Слонімскага водаканала адбыўся лакальны выкід газападобнага хлору.**

Пасля гэтага здарэння ў горадзе пайшла пагалоска, што пацярпелі людзі і мясцовая экалогія.

Праканменціраваць гэты факт карэспандэнт "ГС" папрасіў начальніка Слонімскай гаррайінспекцыі па экалогіі Мікалая Дзегцярова. Ён сказаў, што, сапраўды, падчас звараччных работ з адной з ёмкасцяў адбыўся невялікі выкід хлору. Наступствы яго былі мінімальныя, таму іх хутка ліквідавалі. Электразваршчык не пацярпеў і шкоды навакольнаму асяроддзю нанесена не было.

**Анатоль МІРСКІ**

## Нашы вадзіцелі — лепшыя ў Беларусі

**На базе Слонімскага сельскагаспадарчага ліцэя (былое СПТВ-189) адбыўся рэспубліканскі конкурс сярод навучэнцаў ПТВ па прафесіі "Вадзіцель аўтамабіля". У ім прынялі ўдзел лепшыя вадзіцелі-аўтамабілісты прафтэхвучылішчаў Беларусі.**

Агульнакаманднае першае месца занялі вадзіцелі Гродзенскай вобласці, на другім месцы — з Віцебскай, а на трэцім — з Брэсцкай вобласці.

Першае месца ў індывідуальным заліку на аўтамашыне "КамАЗ" заняў навучэнец Слонімскага ліцэя Аляксандр Юрчык, а на аўтамашыне "ГАЗ-53" вызначыўся Уладзімір Шэлешка з Гродна. Віталь Прытулік са Слоніма на аўтамашыне "ГАЗ-53" быў другім.

Усе пераможцы адзначаны грашовымі прэміямі і падарункамі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



# СУД ПА ФАКТУ СМЕРЦІ СВЯТЛАНЫ ДУБОВІК

**У аўторак, 13 чэрвеня, у Слонімскім судзе пачаўся працэс па крымінальнай справе, якая была ўзбуджана летась па факту смерці 18-гадовай Святланы Дубовік.**



Нагадаем, што раніцай 16 лістапада 1999 года яна была знойдзена на праезджай частцы праспекта Незалежнасці ў непрытомным стане. Дзяўчына адразу была дастаўлена ў бальніцу. Медыкі засведчылі на яе целе мноства цяжкіх калецтваў, але выратаваць ужо не змаглі. Было вельмі позна.

У той жа дзень міліцыя затрымала трох жыхароў горада, якія апошнімі былі з ёй разам. Амаль паўгода ішло следства. Папярэднія яго вынікі зачытала суддзя Тамара Хаміновіч. На лаве падсудных знаходзіліся 21-гадовы Дзяніс Ляшэвіч, 20-гадовы Андрэй Саўчук і 22-гадовы Аляксандр Пясляк. Усе трое абвінавачваліся ў тым, што "заведамо оставили без помощи лицо, находящееся в опасном для жизни состоянии и лишённое возможности принять меры к самосохранению..." (частка 2 арт. 125 КК РБ). Згодна гэтага артыкула Крымінальнага кодэкса прадугледжваецца пакаранне пазбаўленнем волі тэрмінам да 2 гадоў альбо выпраўленчыя работы на той жа тэрмін па месцы працы.

Дык як так здарылася, што трое здаровых мужчын пакінулі дзяўчыну на дарозе на волю лёсу? Калі абагуліць матэрыялы папярэдняга следства і споведзі падсудных на працэсе, то падзеі 16 лістапада мінулага года адбываліся наступным чынам.

У той дзень Ляшэвіч, Саўчук і Пясляк каталіся на іншамарцы па Слоніме. Машыну спыніла Святлана Дубовік і папрасіла падвезці яе на гарадскі рынак, каб пагаварыць з нейкімі хлопцамі, якія яе пакрыўдзілі. Пасля размовы яна, нібыта, прапанавала купіць гарэлкі і дзесьці пасядзець. Такім месцам была абрана кватэра па адрасе Брэсцкая 81/78, якую здымаў Пясляк. Па сцвярджэнню падсудных, Святлане, пасля ўжывання спіртнога, стала дрэнна. Таму яна спачатку накіравалася ў ванны пакой, а потым пайшла на балкон падыхаць свежым паветрам. Пасля чаго ўсе трое пачулі нешта накшталт глухога ўдару і дружна спусціліся з кватэры, якая знаходзілася на пятым паверсе. На двары яны ўбачылі Святлану, якая ляжала на спіне і еле дыхала. Па версіі мужчын, яны паклалі дзяўчыну ў багажнік машыны, бо адна з задніх дзвярэй не адчынялася, і спрабавалі адвезці яе ў бальніцу. Аднак, праехаўшы метраў 500 па праспекце Незалежнасці, у аўтамабілі скончыўся бензін.

(Працяг на 2 стр.)



## Сіротаў становіцца больш

**За пяць месяцаў бягучага года ў Мастоўскім раёне пазбаўлены бацькоўскіх правоў двое бацькоў, якія злоўжываюць алкаголем.**

Летась такіх бацькоў было 17, а дзяцей, што сталі сіротамі пры жывых бацьках — 22.

## Галоўнае — жаданне

**У Правамастоўскай школе-інтэрнаце навучаюцца дзеці з цяжкіх сем'яў і сіроты.**

У апошні час сюды трапляюць і дзеці перасяленцаў з Расіі, якія не хочуць іх выхоўваць. Школа беларускамоўная. Аднак настаўнікі адзначаюць, што ў гэтых дзяцей не існуе праблемаў з вывучэннем беларускай мовы. На ёй яны пішуць і чытаюць, як і ўсе іншыя вучні.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**



## Нараджаюцца ўжо хворымі

**Як адзначаюць медыкі радзільнага аддзялення Мастоўскай бальніцы, толькі 10% нараджаных немаўлят з'яўляюцца абсалютна здаровымі.**

Іншыя дзеці маюць розныя віды паталогіі.

**Антон МАКЕЙ**

## Новыя тэхналогіі

**Дзіўнае відовішча можна было назіраць у сераду, 7 чэрвеня, у Слоніме на перакрыжаванні вуліц Гагарына і Астроўскага.**

Група рабочых займалася асфальтаваннем... лужын. Асфальт кідаўся проста ў ваду і адразу ж закатваўся. Зусім магчыма, што слонімскія спецыялісты апрабоўвалі новую тэхналогію ўкладкі асфальту.

**Алег ТАЧОНЫ**

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

# СТАНЕТ ЛИ ПАРК ОТДЫХА ГОРДОСТЬЮ СЛОНИМА?

Недавно слонимским городским парком стал владеть на правах аренды барановичский предприниматель Игорь Дьяков. В связи с этим была открыта фирма "Техно-лэнд".

***— Игорь Васильевич, вы стали вкладывать деньги в развитие другого города. Чем можно объяснить этот шаг?***

— Мне очень нравится Слоним, тихий уютный городок. К тому же власти здесь чутки к потребностям горожан. Горисполком сразу же откликнулся на мое предложение о ремонте парка, который так долго находился в запустении. А людям, особенно в летнее время, необходимо место отдыха и развлечений.

***— Нарисуйте, пожалуйста, в общих чертах, каким вы планируете видеть парк в будущем.***

— Я мечтаю, чтобы он стал полным соответствием своему названию — Happy Land. Парк задуман по диснейлендовскому типу, т. е. главное — это не только карусели и качели, а приятное времяпрепровождение. Мы уделяем особенное внимание оформлению, хотя антракционы тоже играют большую роль.

***— Стоит ли надеяться слонимчанам, что городской парк станет не только лучше, но и появятся новые аттракционы?***

— В настоящее время в парке действует 13 видов аттракционов. В июле начнут работать ряд новых мест развлечения, а именно — парашютная вышка, крутящаяся бочка, лабиринт, силомер, поезд, проходящий через пещеру страха. Планируем, что каждые две недели мы будем вводить в эксплуатацию несколько новых аттракционов.

***— Тяжело представить отдых летом без прохладительных напитков и мороженого. Что думаете сделать в этом плане?***

— Да, мороженое и напитки будут продаваться в специальных ларьках. Спиртного в продаже не будет. Откроем вращающееся детское кафе.

***— Будет ли реализован план по созданию ресторана на воде?***

— Мысль такая есть, но нужны квалифицированные специалисты, тогда это проект можно осуществить за 1,5-2 месяца.

***— Игорь Васильевич, с тех пор, как вы стали владельцем парка, активизировалась работа. Сколько рабочих мест было создано?***

— В парке трудоустроено 22 человека. Это контролёры, строители, кассиры.

***— Мне известно, что вы задумали открыть в Слониме ещё один парк?***

— Это будет аквапарк, расположенный на озере в Альбертине. Среди аттракционов — водная горка, длиной более 50 метров, водные лыжи, катамараны. Мне кажется, что эти места отдыха станут украшением и гордостью города.

**Антонина СНЫТКОВА**

НАВІНЫ

## У Слоніме новы дырэктар рынку

**Генадзь Мар'янавіч Красачка нядаўна быў прызначаны дырэктарам слонімскага рынку.**

На новую пасаду ён заступіў з панядзелка, 12 чэрвеня. Да гэтага Генадзь Красачка працаваў намеснікам старшыні калгаса "Дружба".

**Сяргей ЁРШ**

## Из Гродно в Минск на самолёте

**С 12 июня Гродненский аэропорт открыл новый пассажирский рейс "Гродно — аэропорт "Минск-1".**

Регулярные полеты в столицу будут осуществляться по понедельникам, пятницам и субботам самолетом "АН-2". Продолжительность полета составит 1 час 15 минут; стоимость билета — 8 тысяч 800 рублей.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## ГРЯДЕТ АМНИСТИЯ

**Палата представителей Национального собрания Беларуси одобрила сразу в двух чтениях проект закона "Об амнистии некоторых категорий лиц, совершивших преступления".**

В настоящее время в местах лишения свободы отбывают наказание 61 тысяча заключенных. С учетом лиц, находящихся в спецкомендатурах, отбывающих исправительные работы и другие виды наказаний, эта цифра составляет порядка 100 тысяч человек, или 577 заключенных на 100 тысяч населения. По этому показателю Беларусь занимает второе место в СНГ, уступая только России, где на 100 тысяч человек приходится 900 заключенных.

Амнистия, в основном, коснется ветеранов Великой Отечественной войны, пенсионеров, участников войны в Афганистане и боевых действий в других странах, ликвидаторов аварии на Чернобыльской АЭС, беременных женщин и несовершеннолетних граждан, совершивших не тяжкие преступления. Под амнистию также подпадают лица, больные туберкулезом, инвалиды I и II групп, страдающие тяжелыми формами онкологических заболеваний, которые были осуждены за тяжкие преступления, но при условии отбытия ими не менее половины срока наказания. Кроме того, досрочно будет освобождена часть лиц, осужденных за преступления, совершенные по неосторожности, а также за экономические преступления в случае возмещения ими нанесенного ущерба.

В общей сложности из исправительно-трудовых учреждений будут освобождены 10 тысяч 700 человек. Еще 21 тысяче заключенных, не имеющих дисциплинарных взысканий, срок содержания в местах лишения свободы будет сокращен на один год.

**БелаПАН**

## СУД ПА ФАКТУ СМЕРЦІ СВЯТЛАНЫ ДУБОВІК

**(Пачатак на 1 стр.)**

Каб заліць гаручае ў бак, Ляшэвіч адкрыў багажнік і, як ён сведчыць, заўважыў, што Святлана на той момант ужо не дыхала. Таму троіца вырашыла не везці дзяўчыну да дактароў, а пакінуць яе на дарозе. Што яны і зрабілі. Потым мужчыны заехалі да сваяка аднаго з іх, адкуль, нібыта, патэлефанавалі ў хуткую дапамогу. Які быў канкрэтна час на той жудасны момант, яны не памятаюць. Тым не менш, першы тэлефонны званок у дзяжурную часць міліцыі прагучаў у 5-20 раніцы. Менавіта тады і была выяўлена Святлана майстрам мясцовага ДЭУ. Па яго словах, дзяўчына была жывая. А брыгада хуткай дапамогі выехала на месца здарэння ўжо пасля паведамлення дзяжурнага аддзела ГРАУС. Там медыкаў чакалі два нарады міліцыі. Яны таксама засведчылі, што Дубовік дыхала.

Яшчэ раз адзначым, што сказанае вышэй — толькі агульны малюнак трагедыі. Магчыма, істотныя дэталі не названы, бо калі артыкул рыхтаваўся да друку, працэс яшчэ ішоў. Трэба сказаць, што падчас сваіх паказанняў падсудныя блыталіся і адмаўляліся ад сказанага раней, што было запратакаліравана папярэднім следствам.

Ацэнку дзеянням і словам падсудных дасць суд. У сераду, 14 чэрвеня, павінны быць заслуханы паказанні сведак. Потым будзе вынесена рашэнне суда. Якое яно будзе і на якой падставе прымалася, "Газета Слонімская" раскажа ў сваім бліжэйшым нумары.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**





## КОНКУРС ЛЕСАРУБАЎ

**На мінулым тыдні адбыліся спаборніцтвы сярод лесарубаў Слонімскага лягсаса.**

Прадстаўнікі лясніцтваў спаборнічалі ў некалькіх відах конкурсаў: мантаж шыннага ланцуга, дакладнае і камбініраванае раскрыжаванне, абрубка сучкоў і валка дрэў.

Пераможцам конкурсу ва ўсіх намінацыях спаборніцтваў стаў Мікалай Мякеня з Парэцкага лясніцтва. Другое месца заняў Юрый Латаш з Зэльвенскага лясніцтва. Дарэчы, пераможцам ён быў у мінулым годзе.

Трэцяе месца заняў Вячаслаў Пятліцкі з Дзераўноўскага лясніцтва.

Усе пераможцы ўзнагароджаны грашовымі прэміямі і каштоўнымі падарункамі.

**Віталь ГІЛЬ, фота аўтара**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны: рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 14 чэрвеня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз.
Заказ № 2224
© «Газета Слонімская» Спасылка на "ГС" абавязковая
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

ГЛЫБІНКА

# СВЕТЛЫ ХУТАР АЛЬШАНКА

Свой хутар Альшанка мясцовыя жыхары не прамяняюць ні на якое іншае месца. А хутар гэты знаходзіцца ў Слонімскім раёне ў нейкіх дваццаці кіламетрах ад райцэнтра, адразу за вёскай Пасінічы. Некалі аўтобусны прыпынак так і называўся — "Альшанка".

Альшанка адносіцца да Міжэвіцкага сельсавета. Дзве хаты — вось і ўвесь хутар. Старэйшаму альшанцу Сцяпану Львовічу Мухарэўскаму ўжо 94 гады. Ён жыве з унукам Андрэем. Мінулай восенню Андрэй ажаніўся на дзяўчыне Аксане, з якой пазнаёміўся ў Міжэвічах, дзе яна, студэнтка Гродзенскага сельгасінстытута, праходзіла практыку. Закахаліся адзін у аднаго з першага позірку, справілі вяселле. Цяпер Андрэй і Аксана Мухарэўскія жывуць з дзедам у Альшанцы ў адным доме. Дом у іх вялікі. Ёсць шмат прыбудоў, сад, агарод, маюць уласную аўтамашыну, трымаюць кароў, свіней, курэй. Адным словам — сапраўдныя хутаранцы.



*Аксана Мухарэўская — самая маладая жыхарка Альшанкі*

Калі мы завіталі на сядзібу Мухарэўскіх, Аксана палола градкі, а дзед адпачываў. Муж Аксаны быў на працы. Ён механізатар калгаса "Міжэвічы". Таму пра сваё жыццё ў Альшанцы расказала Аксана:

— Вы думаеце, што нам тут сумна? Зусім не. Пасля інстытута я пакуль без працы. Але старшыня калгаса абяцаў мяне хутка ўладкаваць. Таму ўвесь час аддаю гаспадарцы. Тут чыстае паветра, ціха і вольна. Часта ездзім у Слонім да бацькоў, да сяброў. Муж Андрэй у мяне добры. Не курыць і не п'е, як дзед шчыры і прыгожы мужчына. Мы жывем у згодзе...

— А хто даглядае гаспадарку? — пытаюся ў Аксаны.

— Я і Андрэй. Мы ўсё робім супольна. Нам у Альшанцы вельмі падабаецца, — прызналася Аксана Мухарэўская.

Побач з іх сядзібай знаходзіцца яшчэ адна гаспадарка, дзе пражываюць пенсіянеры Сяргей Пятровіч і Ганна Ільінічна Аляксейчыкі. Яны таксама вельмі любяць свой хутарок, бо ўсё жыццё тут пражылі. Сяргей Пятровіч працаваў механізатарам, а Ганна Ільінічна — даяркай.

— Адна бяда, што старыя ўжо, здароўе не тое і сілы няма. Але трымаем яшчэ кароўку, парсючка. Трэба ж і дзецям дапамагаць, бо цэны ж цяпер вар'яцкія. Раней мы атрымлівалі па 120 — 150 рублёў, а за 75 рублёў можна было купіць шыкоўны касцюм. А цяпер што купіш за гэтыя тысячы? — уздыхаюць пенсіянеры.

Мы доўга яшчэ гутарылі з жыхарамі Альшанкі. Па іх словах адчувалася, што яны любяць гэтае месцейка. І нам яно спадабалася сваёй чысцінёй, зелянінай і прасторам.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Віталь ГІЛЬ (фота)**



*Сяргей Пятровіч і Ганна Ільінічна Аляксейчыкі на сваім надворку*

## КУДЫ ДЗЯЕЦЦА БЕНЗІН?

**У Мастоўскім раёне налічваецца шэраг кіраўнікоў, якія запрошаны на працу з усёй вобласці.**

Пакуль для новых начальнікаў будуюць жыллё, яны вымушаны дабірацца да месца працы на службовых аўтамабілях. А на гэта трацiцца шмат паліва, якое купляецца за грошы з грамадскай касы.

Напрыклад, старшыня мясцовага райвыканкама Аляксандр Кісялёў ужо пяты год ездзіць на службу з вёскі Харціца. А гэта болей 20 км дарогі ў адзін бок. Яго намеснік Сяргей Шатроў мае даўжэйшы маршрут, бо жыве ў вёсцы Верцялішкі Гродзенскага раёна. Адлегласць да гэтай вёскі дасягае 60 км. За 30 км з гарадскога пасёлка Скідаль ездзіць на працу начальнік міліцыі Іван Здановіч. А за яго жонкай, якая працуе ў райспажыўсаюзе, штодня таксама пасылаецца машына, а вечарам адвозіць яе дамоў.

І гэта яшчэ не ўсё, бо шмат старшыняў калгасаў, якія атрымалі прызначэнні ў апошні час і не паспелі пабудаваць жыллё на новым месцы, вымушаны штодня здалёк ездзіць на працу.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Планы пакуль не ВЫКОНВАЮЦЦА

**Не спраўдзіліся надзеі Мастоўскага райаграпрамхарчу ў тым, што з пашавым перыядам павысяцца надоі малака.**

Гэты паказчык зараз складае 91% ад мінулагодняга. Сярэднястатыстычны надой ад адной каровы раўняецца 306 кг. Толькі чатыры гаспадаркі раёна: калгасы "40 гадоў Кастрычніка", "Світанне", "Дубна", "Дружба" мелі нязначнае павелічэнне надояў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Депутаты отменили решение исполкома

**Большинством голосов депутаты Слонимского городского совета на прошедшей сессии отклонили решение исполкома "Об увеличении ставок земельного налога и налога на недвижимость на 2000 год".**

Они не согласились на увеличение для юридических лиц ставки земельного налога в 1,5 раза и ставки налога на недвижимость в 1,2 раза. По мнению депутатов, принятие данного решения повлекло бы за собой увеличение и так высокого налогового пресса на предприятия и организации города, которые находятся сейчас в тяжелом экономическом положении.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК,** депутат Слонимского горсовета

## А вось Нідэрланды пра нас не забываюць

**Ужо не першы раз на Дзятлаўскую зямлю прыязджаюць госці з далёкіх Нідэрландаў.**

Нядаўна яны зноў даставілі сюды гуманітарную дапамогу — медыкаменты для раённай бальніцы.

## Лагер для таленавітых дзяцей

**На базе Дзятлаўскай СШ №2 працуе лагер "Навука" для пераможцаў алімпіяд і наогул для таленавітых дзяцей раёна.**

Больш як 30 хлопчыкаў і дзяўчынак з розных школ наведваюць заняткі па асобных прадметах. Разам з тым там яны адпачываюць, вучацца танцаваць, гуляць у тэніс і працаваць на камп'ютэры.

## Час мінае, абрады застаюцца

**"Святы і абрады адыходзячага стагоддзя" — так называўся конкурс, што прайшоў ва ўстановах культуры Дзятлаўскага раёна.**

Самым лепшым прызнаны абрад "Уваходзіны", падрыхтаваны работнікамі Гезгалаўскага дома культуры.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## ПРОФСОЮЗНОЕ ИЗДАНИЕ

**Первичная организация Свободного профсоюза Белорусского Слонимской камвольно-прядильной фабрики начала издавать свой информационный бюллетень "Камвольщик".**


Камвольщик
№ 2
июнь
С праздником!
Камвольщик

Бюллетень знакомит читателей с законом Республики Беларусь о профессиональных союзах, пишет о проблемах предприятия, о деятельности и задачах Свободного профсоюза. Уже вышло два номера "Камвольщика" на правах внутренней документации тиражом в 99 экземпляров. Редактирует бюллетень Виталь Яшану.

**Сергей ЁРШ**

## ВЫМІРАЕМ

**Згодна статыстычных дадзеных, з пачатку года ў Мастоўскім раёне памерла 209 чалавек, а нарадзілася толькі 84.**

Асабліва шмат людзей памірае на вёсцы.

**Антон МАКЕЙ**

ЗДАРЭННІ

## "Салодкі злодзей"

**Ноччу пастух калгаса "Рассвет" Зэльвенскага раёна ўзламаў дзверы ў доме жыхаркі Зэльвы і ўкраў адтуль дзве бутэлькі гарэлкі і 10 кг мёду.**

Міліцыя затрымала злодзея.

**Міхась АКУЛКА**

## Захацеў выпіць і закусіць на дармаўшчыну

**У вёсцы Белалозы Дзятлаўскага раёна невядомы падпільнаваў, калі гаспадары пойдуць з хаты і, сарваўшы замок, залез у памяшканне.**

Адтуль ён украў 12 кг сала, 2 кг каўбасы, 5 тысяч рублёў і 4 бутэлькі віна. Міліцыя шукае злачынцу.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
15 — 21 чэрвеня, 2000г. № 25 (158)

## Появились новые возможности транслировать БОЛЬШЕ телеканалов

**Беларуси выделен частотный ресурс на геостационарной орбитальной позиции 37,8 градуса восточной долготы, который даст возможность распределять на территории страны и сопредельных государств через спутниковую сеть десять аналоговых телеканалов, а при использовании современных технологий количество транслируемых каналов может быть увеличено до 40.**

Об этом БелаПАН сообщил первый заместитель министра связи страны Анатолий Будай, возглавлявший делегацию Беларуси на Всемирной конференции радиосвязи Международного союза электросвязи, которая недавно завершилась в Стамбуле (Турция).

В результате работы белорусской делегации, куда входили представители аппарата Совета Министров, Министерства обороны и управления правительственной связи Комитета государственной безопасности, были "защищены интересы силовых структур Беларуси в области перераспределения частотного ресурса; конференция выделила дополнительные участки частотного спектра для использования перспективной системы подвижной спутниковой связи IMT-2000".

**Дмитрий ВЛАСОВ**

# "Экалагічны падатак" ЗА ПАРКОЎКУ МАШЫНЫ

**Гэтую гісторыю расказаў слонімец Ігар, які нядаўна па справах ездзіў у Польшчу. На пагранічным пераходзе Брузгі, што пад Гроднам, з беларускага боку ў чарзе было 300-400 машын. Ігар апынуўся ў канцы гэтай чаргі. Давялося заначаваць у машыне.**

1 чэрвеня ў 9 гадзін раніцы на работу заступіла новая змена пагранічнікаў і мытнікаў, якія адразу ўстанавілі касавы аппарат. Яны запатрабавалі з кожнага шафёра па адной мінімальнай зарплаце. А на мяжы і так хапае розных падаткаў, а тут яшчэ і гэта!..

Праз мяжу цяпер прапускалі толькі з квітанцыяй аб аплаце за... экалагічны збор: 2600 рублёў — для машын, 500 рублёў — для матацыклаў, 7800 рублёў — для мікрааўтобусаў. Аднак на квітанцыі чамусьці было пазначана, што гэта падатак за паркоўку аўтамабіля... А гэта ж здзек! Якая ж гэта "паркоўка" на мяжы, калі людзі да сутак праводзяць у чарзе ў сваіх машынах.

Чалавек дзесяць падатак заплацілі (але і яны не праехалі), але астатнія плаціць адмовіліся. Яны перакрылі машынамі пераход і нікога не падпускалі да касавага апарата.

Напэўна, мытнікі патэлефанавалі ў Гродна. Прыехала тры аўтобусы АМАПу. Амапаўцы ішлі на "бунтаўшчыкоў" шыхтом, узброеныя шчытамі і дубінкамі і пагражаюча чэканілі крок. Відаць, спадзяваліся, што мужчыны спалохаюцца і разыдуцца. Аднак тыя, хоць і не ведалі адзін аднаго, усё ж не разышліся. Спыніліся і амапаўцы.

Тут прыехаў пракурор Гродзенскага раёна, сказаў, што рашэнне мытнікаў незаконнае, таму вадзіцелям плаціць "экалагічны збор" не трэба (казаў, што ўвёў маратрый на гэты падатак да 10 чэрвеня). Ён паабяцаў, што ўсіх прапусцяць праз мяжу.

Вадзіцелі разышліся па машынах, а пракурор і АМАП з'ехалі. Звычайна ў чарзе можна прастаяць гадзін дзесяць, а то і больш. Тут жа ўсе праехалі вельмі хутка. Застаецца толькі здагадвацца, хто і для чаго стварае на мяжы чэргі... Пасля прыезду пракурора стаў таннейшы і ваўчар, які раней каштаваў 1200 рублёў, а цяпер — 500 рублёў.

І яшчэ адзін факт. Гэты інцыдэнт адбыўся напярэдадні Сусветнага дня аховы навакольнага асяроддзя...

**Сяргей ЁРШ**



*Аўтамабільныя чэргі на беларуска-польскай мяжы*

## ТРЕБОВАНИЯ ОППОЗИЦИИ

**Верховный Совет Беларуси 13-го созыва обеспокоен углублением в стране конституционного, политического и экономического кризиса, дальнейшим ухудшением условий жизни народа, ограничением прав и свобод граждан, а также непрекращающимся произволом властей.**

Реальным выходом из создавшейся ситуации руководство Верховного Совета видит проведение в Беларуси свободных и демократических парламентских и президентских выборов. При этом, подчеркивается в документе, власти должны обеспечить соблюдение ряда условий: восстановить законодательные функции парламента в соответствии с Конституцией 1994 года; привести избирательное законодательство в соответствие с международными стандартами и Конституцией страны; обеспечить доступ оппозиции, в том числе и депутатов Верховного совета, к государственным СМИ; прекратить преследования граждан по политическим мотивам. Кроме того, Верховный Совет требует от властей принять все необходимые меры по поиску пропавших без вести белорусских политических деятелей.

Только в случае выполнения вышеперечисленных требований Верховный Совет считает возможным свое участие в предстоящей избирательной кампании.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## Число краж автотранспорта растет

**В Гродненской области растет число краж автотранспорта. С начала года зарегистрировано уже 57 таких преступлений.**

Для сравнения: в прошлом году в области произошло 44 кражи автомобилей. Наиболее сложная ситуация в двух крупнейших городах области — Гродно и Лиде.

Сотрудники милиции считают, что одной из основных причин такой тенденции является нехватка платных стоянок. Например, в Гродно насчитывается 21 стоянка, что для города, где зарегистрировано около 55 тысяч автомобилей, явно недостаточно.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Сколько в Беларуси земли

**Согласно правительственных Отчетов о наличии земель в республике, общая площадь земель в Беларуси составляет 20 759,6 тысяч гектаров.**

Из них под сельхозугодия занято - 9 281,5 тысяч гектаров, в том числе пахотных - 6 181,7 тысяч, леса занимают - 8 414,5 тысяч гектаров, болот у нас - 959,2 тысяч, земель под водой - 476,5 тысяч. Общая площадь земель колхозов, совхозов и других сельхозпредприятий составляет 9 397,2 тысяч гектаров, земель граждан - 1 517,5 тысяч. Радиационно-опасные земли (расположенные в зоне радиоактивного загрязнения, на которых не обеспечивается производство продукции) занимают около 248,9 тысяч гектаров.

**Сергей СНЕГИН**

# ЗАКОДИРУЕМСЯ

**С 1 октября 2000 года в Беларуси вводится обязательное маркирование продукции, производимой на территории страны и поставляемой на экспорт. Такое решение принял Совет Министров, утвердив одновременно Положение о товарной нумерации и штриховом кодировании товаров.**

Речь идет о нанесении штриховых идентификационных кодов, давно практикуемом во многих странах, а в последние годы — и в Беларуси. Национальные системы нумерации товаров объединены в Международную систему товарной нумерации. Главная ее цель — обеспечение однозначной идентификации товаров в системе международного товарооборота путем присвоения товарам 13- или 8-разрядного (в США и Канаде — 12- и 7-разрядного) номера, наносимого на товар в виде штрихового кода. В настоящее время некоторые белорусские товары маркированы штриховыми кодами, начинающимися с цифр 460 (код бывшего Советского Союза) и 481 (код Беларуси как страны-производителя).

Введение системы обязательного маркирования продукции потребует от товаропроизводителей вступления в Ассоциацию товарной нумерации Беларуси. Для такого вступления юридическое лицо или индивидуальный предприниматель должны подать в Ассоциацию заявление, на основании которого ему присвоят регистрационный номер и уникальный международный номер расположения. Нанесение на продукцию штриховых кодов осуществляет сам производитель.

В дальнейшем предполагается создание в Беларуси автоматизированной системы ведения депозитария штриховых кодов. Кроме того, правительство поручило Министерству промышленности рассмотреть возможность производства в Беларуси оборудования для штриховой идентификации.

**Сергей СНЕГИН**

# Сохраним природные БОГАТСТВА

**На прошлой неделе в Гродненском облисполкоме состоялось заседание рабочих групп, занимающихся реализацией проекта "Региональное развитие и охрана природы в еврорегионе "Неман".**

Проект действует в рамках реализации программы ТАСИС по трансграничному сотрудничеству и финансируется Европейским Союзом. На его реализацию в Гродненской области выделен 1 миллион евро. Проект направлен на охрану историко-культурных и природных богатств Принеманья, развитие регионального и международного туризма.

Участники заседания, среди которых — экологи, историки, проектировщики, иностранные эксперты, рассмотрели проекты по охране природы на территории области и стратегии развития устойчивого туризма.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## "ЛІТВАНІЯ" У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**Напрыканцы траўня ў Навагрудку адбылося падпісанне "Акту абвяшчэння існавання ліцвінскай нацыі".**

Некалькі дзесяткаў жыхароў Беларусі з Ваўкавыска, Ліды, Мінска, Гомеля, Пінска ды іншых гарадоў удзельнічалі ў гэтай акцыі на Замкавай гары. Іх аб'ядноўвала тое, што яны прыхільнікі адраджэння Вялікага княства Літоўскага і гістарычнай назвы беларусаў — ліцвіны.

"Мы, рэпрэзентанты ліцвінскага народа, — гаворыцца ў "Акце...", — заяўляем, што ўсведамляем сябе па нацыянальнасці ліцвінамі і абвяшчаем пра існаванне ліцвінскай нацыі. Згодна з падставовым правам чалавека на нацыянальную самаідэнтыфікацыю, просім дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі ўсіх краін разглядаць дадзены Акт як доказ існавання нацыі ліцвінаў".

Трэба адзначыць, што так званы ліцвінскі рух існаваў на Беларусі яшчэ ў даваенныя часы, а пасля на эміграцыі. Праўда, тады "ліцвіны" не падзялялі беларускі народ на часткі. Сённяшнія ж іх паслядоўнікі збіраюцца пабудаваць "Літванію" у Заходняй Беларусі...

**Алег ТАЧОНЫ**

# ПРОФСОЮЗЫ НАДЕЮТСЯ НА ИЗМЕНЕНИЯ

**В октябре-ноябре 2000 года Комитет по свободе ассоциаций Международной организации труда (МОТ) рассмотрит жалобу белорусских профсоюзов на вмешательство государства в их деятельность.**

Об этом сообщил на пресс-конференции эксперт по вопросам деятельности профсоюзов московского бюро МОТ Франк Хоффер. Он находился в Минске с двухдневным визитом по приглашению профсоюзов работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, радиоэлектронной промышленности Федерации профсоюзов Белорусской, а также Конгресса демократических профсоюзов.

В жалобе пять пунктов: превращение регистрации профсоюзов из формальной процедуры в способ ущемления их прав; завышенная минимальная численность профсоюза, необходимая для его регистрации; вмешательство государственных структур во внутренние дела профсоюзов (в частности, в проходящую сейчас отчетно-выборную кампанию); невозможность легальной организации забастовки; дискриминация членов профсоюзов. К жалобе приложены документы, свидетельствующие о многочисленных нарушениях государственными органами прав профсоюзов.

На заседание комитета будут приглашены представители профсоюзов и правительства, в частности, министр труда. Как заявил Ф.Хоффер, по итогам рассмотрения жалобы будет принят пакет рекомендаций белорусским властям по исправлению ситуации. Он выразил надежду, что государственные органы страны прислушаются к этим предложениям: Беларусь является членом МОТ и должна придерживаться ее основополагающих принципов, в т.ч. в части независимости профсоюзов.

**БелаПАН**

на жыццёвых скрыжаваннях

# Чорны паясок з узорам

Зінаіда наліла ў міскі заціркі, паставіла на кухонны стол, і, перагнуўшыся праз адчыненае акно, гукнула ў вячэрнюю прахалоду вёскі:

— Андрэй, кліч Толіка і марш вячэраць! Не забывайцеся, што нам заўтра каровы пасвіць. Пабуджу рана.

Дзевяцігадовы Андрэйка, які рамантаваў на падворку веласіпед, занёс у гараж нейкія запчасткі, памыў ля калодзежа рукі і накіраваўся на вуліцу, дзе гаманіла вясковая дзятва. Малы брацік Толік, якому ўсяго шэсць гадоў, павінен быць там. Але, як ні дзіўна, сярод вясковых хлапчукоў, што ганялі мяч, яго не аказалася.

— Дзе наш малы? — падышоўшы да аднаго з іх, запытаў Андрэйка.

— Не ведаю, — паціснуў худзенькімі плечыкамі хлопчык і, падбіваючы мяч сагнутай у калене нагой, утаропіўся ў Андрэйку.

— Гэй, Рыжы, не затрымлівай мячык! — крыкнулі на малога з вялікай незадаволенасцю ў некалькі галасоў, бо па яго віне спынілася гульня.

— Пачакайце, — страсянуў той выгаранымі на сонцы віхрамі. — Толіка не бачылі?

— Не бачылі, — адказаў за ўсіх самы большы хлапчук.

Андрэйка быў упэўнены, што раз Толіка не бачылі дзеці, то ён, няйначай, пабег да бацькі на збожжасушылку. Там цяпер круглыя суткі кіпіць работа: жніво на дварэ.

Не ўбачыўшы брацікa ў памяшканні, ён паклікаў бацьку на двор, бо з-за гулу матораў нічога нельга было пачуць.

— Толік тут?

— Не, — адказаў бацька. — Можа дзе з дзецьмі бегае?

— Няма яго з дзецьмі, — прамовіў Андрэйка, і ў яго душу халоднай вужакай пачаў запаўзаць страх.

— Знойдзецца, — махнуў рукой бацька і пайшоў займацца сваімі справамі.

Тым часам на зямлю насоўваўся прыцемак. Зінаіда, падаіўшы карову, вярталася ў хату з вядром сырадою. Убачыла ў брамцы аднаго Андрэйку, і ў яе нядобра таўханулася сэрца.

— Няма яго нідзе, мама, — як не стрымліваў сябе, у голасе пачулася трывога. — І ў дзяцей пытаў, і да таты на зернеток хадзіў — нідзе няма.

— А калі ты яго бачыў?

— У абед. Ён паеў і пабег з хаты.

— Можа ў Сашкі? — выказала меркаванне маці, маючы на ўвазе суседскага хлопчыка-аднагодку Толіка.

— Няма іх дома, недзе паехалі. Я сам бачыў.

Паставіўшы ў сенях непрацэджанае малако, Зінаіда кінулася на вуліцу. Ногі яе падкошваліся, у горле перасохла. Яна ўжо дакладна ведала, што з малым здарылася нешта нядобрае, бо ніколі з сынам такога не было, каб дзе-небудзь бегаў, не папярэдзіўшы маці ці бацьку.

— Бяжы на зернеток, скажы тату, — загадала Андрэю, а сама кінулася да сястры. Хутка падышлі, невядома як дачуўшыся пра бяду, суседзі. Пад'ехаў ад зернетока на матацыкле сам гаспадар.

— Што рабіць, Кастусь?! — у роспачы пытала жонка. — Прапаў наш Толічак...

— У міліцыю трэба паведаміць, — параіў нехта з натоўпу.

Пайшлі да хаты брыгадзіра, дзе быў адзіны на ўсю вёску тэлефон.

Міліцыянеры не прымусілі сябе доўга чакаць. На машыне прыехалі чатыры чалавекі. Усё распыталі, прынялі рашэнне:

— Будзем шукаць, — сказаў старшы з іх і тут жа запытаў, — а да сваякоў, скажам, да бабулі ён не мог уцячы?

— Не, мае дзеці на такія ўчынкі не здольныя, — ламаючы рукі і не бачачы за слязьмі свету, прамовіла Зінаіда. — З ім здарылася нешта страшнае. Я гэта адчуваю, я ведаю...

Начныя пошукі нічога не далі, хоць людзі абходзілі ўсю ваколіцу, гукалі, клікалі хлопчыка. Толькі рэха было ім адказам. Назаўтра раніцай учарнеўшая ад гора Зінаіда разам з іншымі пайшла на пошукі ў бліжэйшы лес. Аблазілі кусты ля чыгункі, але нічога, што б паказвала на след хлопчыка, так і не знайшлі.

Вясковая дзятва, устрывожыўшыся і кінуўшы свае гульні, таксама падключылася да справы. Усё марна.



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Аб знікненні хлопчыка зрабілі паведамленне па мясцоваму радыё. Перадалі вестку ў абласную міліцыю. Але малы знік бясследна.

Міналі дні. У калгасе закончылі жніво. Зінаіда, якая працавала памочнікам брыгадзіра, нежк і не заўважыла гэтага. Акамянелая ад гора, яна ўжо не магла плакаць, не магла ні спаць, ні есці.

— Розум страціць, бедная, — спачувалі суседкі і спрабавалі загаварыць з ёй то пра адно, то пра другое. Кабета ні на што не рэагавала. Не паварушылася яна і тады, калі аднойчы надвячоркам у хату ўбег устрывожаны Андрэйка. У дрыжачых руках ён трымаў чорны паясок з узорам. Толікаў паясок. Хлопчыку падарыў яго дзядзька, што мінулым летам прыязджаў у водпуск з Мурманска.

Малы вельмі любіў гэты паясок і амаль не разлучаўся з ім. Асабліва яму падабалася, што на пражкы быў маленькі якар. Такога паяска не меў ніхто ў ваколіцы.

— Мама, глядзі, — крануўшы за плячо няшчасную маці, прамовіў Андрэйка. Яна зірнула і адразу ж адвяла позірк патухшых, нежывых вачэй. Шчокі, яшчэ нядаўна такія круглыя і румяныя, увваліліся, сталі шэрымі.

— Толікаў паясок, мамачка! — ледзь не плачучы, даводзіў ёй сын.

Нешта жывое варухнулася ў мацярынскіх вачах. Яна аж задрыжала ўся, абедзвюмя рукамі схапіла паясок і прыпала да яго вуснамі.

— Сыночак, Толічак, адгукніся, акажыся ці з таго свету, ці з гэтага. Я не вытрымаю без цябе! І неба чорнае, і сонца чорнае, і кветкі чорныя цвітуць...

Яна памаўчала і раптам усхапілася з зэдліка:

— Дзе ўзяў? Дзе ты яго ўзяў?! — вырваўся з грудзей крык, у якім перапляліся боль і жалоба, страх і роспач, спавітыя тоненькімі нітачкамі надзеі.

— Сабака суседскі, Сашкаў, на вуліцу выцягнуў і валтузіўся ля іхніх варотаў. А я якраз ішоў міма.

— Кліч бацьку, кліч людзей, няхай звоняць у міліцыю! — крыкнула Зінаіда і без прытомнасці асунулася на падлогу.

...Хварэла яна доўга і на судзе забойцаў сына не была, не чула прызнанняў, якія давалі прыпёртыя фактамі злачынцы. Па таму чорнаму пояску следчыя хутка знайшлі іх.

Бацькі малога Сашы Лапшука, раніцай завёзшы на матацыкле сына да бабулі ў суседні раён, у поўдзень вярнуліся дадому. Паколькі абое былі ў водпуску, вырашылі пацешыць сябе спіртным. Па дарозе заехалі ў райцэнтр, набралі гарэлкі. Ні Тамара, ні тым больш Мікалай, ніколі не супраць былі кульнуць чарку, а тут такая прычына — водпуск. Разамлелы ад гарачыні і ад выпіўкі Мікалай, як і заўсёды ў такіх выпадках, пачаў падазраваць жонку ў нявернасці. Яна абразы не сцярпела і давай паліваць славесным брудам мужа. Ведаючы, што дабром справа не скончыцца, памкнулася да дзвярэй, каб выскачыць з хаты. Мікалай схапіў за ножку табурэтку і запусціў у жонку. І якраз у гэты момант дзверы адчыніліся і на парозе з'явіўся Толік. Хлопчык не ведаў, што яго сябрука няма дома, прыйшоў да яго пагуляць. Табурэтка з усяго размаху ўрэзалася ў кволае цельца, кантам якраз у вісок. Толік памёр на месцы.

П'яныя Тамара і Мікалай знямелі. Страх скаваў іх. Потым яна моцна заламантавала, вырачыўшы вочы:

— Што ты нарабіў, зараза? Што цяпер будзе?!

— Змоўкні, падла! Усё з-за цябе. Сама ж ведаеш, што не хацеў...

Па меры таго, як асэнсоўвалі сваё становішча, хмель злятаў з іх, як пажоўклае лісце злятае з дрэў. Вырашылі дзейнічаць. Распранулі хлопчыка і ў асобны вузельчык склалі яго вопратку, каб потым у лесе, далёка ад гэтых мясцін, спаліць і закапаць. Голы трупік закруцілі ў посцілку і, дачакаўшыся вечара, паклалі ў каляску матацыкла. Замкнулі хату і выехалі з двара. Якраз у гэты час Андрэйка ўжо лётаў па вёсцы ў пошуках брацікa...

Заехаўшы ў суседні раён, яны спалілі ў лесе Толікаву вопратку, папярэдне абліўшы яе бензінам, а потым попел і труп хлопчыка закапалі ў яму. Зноў нацягалі ламачча, расклалі вогнішча. Да паўночы сядзелі ў глухім лесе і чакалі, пакуль на тым месцы дзе капалі набярэцца добрая куча попелу.

Пагасціўшы некалькі дзён у Тамарынай маці, дзе ў той час быў іхні Сашка, спакойна вярнуліся дамоў.

Усё прадугледзелі забойцы, але, спяшаючыся, згубілі чорны паясок з узорам...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКІЯ АСЯРОДКІ КУЛЬТУРЫ Ў ВАРШАВЕ

**По запрашэнню фундацыі "Польска-чэская-славацкая салідарнасць" мне два тыдні давялося вучыцца на камп'ютэрных курсах у Варшаве. Трапіўшы ўпершыню ў гэты сталічны горад, без належнага валодання мовай, нейкі час адчуваеш сябе псіхалагічна няўтульна. Аднак арганізатары курсаў улічваюць гэту акалічнасць і наладжваюць для сваіх гасцей сустрэчы, знаёмствы з землякамі, якія жывуць і працуюць у польскай сталіцы. Былі такія знаёмствы і ў мяне.**

Першым месцам, куды давялося завітаць, стаў беларускі аддзел фундацыі "Ідэя", які арганізуе семінары, ладзіць розныя культурныя мерапрыемствы для беларусаў у Польшчы, а таксама фінансуе некаторыя сацыяльныя і выдавецкія праекты. І хоць каардынатара праграмы Паўла Казанецкага на месцы на той час не аказалася, мяне сардэчна сустрэла супрацоўніца Таццяна. Расказаўшы пра сваю працу ў Польшчы, яна з цікавасцю распытвала ў мяне пра жыццё ў Беларусі. Таццяна родам з Пастаўшчыны, дзе жыве яе маці, і яе, натуральна, цікавіць усё, што адбываецца на Радзіме. Але здзівіла мяне тое, што за няпоўную гадзіну, якую я прабыў у "Ідэі", туды завітала некалькі чалавек з Беларусі па параду ці дапамогу. Падумалася тады, што за мяжой і беларусы робяцца больш салідарнымі паміж сабой.

У тым, што свет цесны, давялося пераканацца ў беларускай рэдакцыі польскага радыё, куды мяне запрасілі на інтэрв'ю. Аказалася, што з журналісткай радыё "Полонія" Вольгай Гардзейчык мы ў свой час разам вучыліся ў Белдзяржуніверсітэце, толькі яна была на курс маладзейшай. Тут я даведаўся, што беларуская рэдакцыя радыё існуе ў Польшчы ўжо шэсць гадоў, налічвае восем супрацоўнікаў і цалкам фінансуецца польскім урадам, так як і іншыя замежныя рэдакцыі. Вольга Гардзейчык, карэнная мінчанка, якая выйшла замуж за польскага журналіста, не толькі па абавязках сваёй працы не парывае сувязяў з Радзімай, але з'яўляецца адным з арганізатараў Беларускага інстытута культуры ў Варшаве. Гэта грамадская навукова-культурніцкая арганізацыя яшчэ знаходзіцца ў стадыі станаўлення і мае на мэце згуртаваць вакол сябе беларускую інтэлігенцыю і навукоўцаў, якія воляй лёсу жывуць і працуюць у Польшчы.

На вуліцы імя Гагарына ў Варшаве ўжо каля шасці гадоў дзейнічае Цэнтр славянскай культуры і пісьменнасці. Узначальвае яго беларус з Беласточчыны Ян Заброцкі. Спадар Ян штодзень сустракаецца з людзьмі самых розных нацыянальнасцяў з розных куткоў свету, арганізоўвае канферэнцыі, сустрэчы, канцэрты. Але найпершы яго клопат — прапаганда і распаўсюджванне ў Польшчы кніг славянскіх аўтараў. Сюды прывозяць свае кнігі беларускія, украінскія, рускія, балгарскія, чэшскія, славацкія і іншыя славянскія пісьменнікі. У Цэнтры мне давялося пагутарыць з прафесарамі польскай і ўкраінскай філалогіі. І хоць спадар Ян імкнецца не дапускаць у сваёй "рэзедэнцыі" размоў на палітычныя тэмы, у гутарцы пра сучасную культуру, гісторыю і літаратуру польскага, украінскага і беларускага народаў наша гутарка непрыкметна перайшла ў рэчышча палітыкі, і ў прыватнасці — моўнай палітыкі гэтых трох суседніх дзяржаў. На жаль, у гэтым пытанні мы, беларусы, пачуваемся горш за ўкраінцаў, не кажучы ўжо пра палякаў. Але і беларуская кніжка, па словах Яна Заброцкага, знаходзіць свайго чытача. Добра прадаюцца беларускія выданні ў самой Варшаве і цэнтральнай Польшчы. І вельмі засмучае спадара Яна той факт, што на яго роднай Беласточчыне беларуская кніжка апошнім часам застаецца амаль незапатрабаванай. У Варшаве ж, на Гагарына 15, можна сустрэць і японца, які вельмі добра размаўляе па-беларуску. І паспрабуй, зразумей гэтых японцаў, якія цікавяцца Беларуссю, вывучаючы яе мову, ведаюць гісторыю, калі самі беларусы на Радзіме да гэтага абыякавыя. А можа меў рацыю паэт, калі напісаў, што "каб любіць Беларусь сваю родную, трэба ў розных краях пабываць..."?

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ІНТЭРВ'Ю З ЦІКАВАЙ ЖАНЧЫНАЙ

## Рэгіна КАРАКУЛЬКА: "У ПРАЦЫ – Я ФАНАТ"

***— Рэгіна Мікалаеўна, адкуль і калі Вы прыехалі на Дзятлаўшчыну?***

— Я родам з вёскі Бародзічы, што ў Зэльвенскім раёне. Пасля школы вучылася ў Гродзенскім медінстытуце. Было гэта ў 1964 годзе. Паколькі вучылася выдатна, то мне прапанавалі застацца ў інстытуце на кафедры педыятрыі. Адмовілася.

***— Чаму?***

— Хацелася папрактыкавацца лячыць людзей. Гэта не прыгожыя словы, а сэнс майго жыцця.

***— І Вам такую магчымасць прадаставілі?***

— Так, мяне накіравалі працаваць урачом у Раготнаўскую амбулаторыю, што на Дзятлаўшчыне. Гэта была цудоўная школа: і жыццёвая, і прафесійная. Адной даводзілася прымаць складаныя рашэнні, бо іншы раз усё вырашалі мінуты. 20 гадоў назад мяне прызначылі загадчыцай інфекцыйнага аддзялення раённай бальніцы.

У працы — я фанат. Імкнуся як мага больш ведаць і ўсякі раз усведамляю, што ведаю мала. Гэта ўсведамленне не дае мне права супакойвацца на дасягнутым. А яшчэ я вельмі люблю людзей, спачуваю ім і дапамагаю, чым толькі магу. Усё, як бачыце, элементарна.

***— Рэгіна Мікалаеўна, у інфекцыйным аддзяленні, якое Вы ўзначальваеце, узорная чысціня і парадак, зроблены рамонт, пануе ўтульнасць...***

— У гэтым нам дапамагае і кіраўніцтва дзятлаўскай бальніцы, і добрыя, спагадлівыя людзі з-за мяжы. Яны пастаянна дастаўляюць гуманітарную дапамогу. Вось неўзабаве зноў маюцца прыехаць.

***— Кажуць, што з замежнымі гасцямі Вы размаўляеце без перакладчыка?***

— Я ў школе вывучала нямецкую мову. Сур'ёзна займалася, і цяпер мне гэта вельмі спатрэбілася.

***— Ваш муж, Яўген Іванавіч, родам з Дзятлаўшчыны?***

— Так, ён родам з вёскі Сачыўляны. Мы пражылі разам 32 гады, і ўвесь гэты час я ад яго ў захапленні. Не толькі я, але і нашы дзеці.

***— Вашы дзеці ўжо дарослыя? Дзе яны жывуць, чым займаюцца?***

— Так, мае дзеці дарослыя і жывуць яны далёка ад мяне. Старэйшы сын Гена — радыёінжынер. Атрымаў вышэйшую адукацыю на Радзіме, потым вучыўся ў Амерыцы. Там цяпер з жонкай і жывуць.

Малодшы сын Дзіма закончыў Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт, аддзяленне французскай мовы. Ён перакладчык. Пазней закончыў універсітэт у Страсбургу, атрымаў спецыяльнасць эканаміста. Жыве ў Люксембургу, працуе ў адной з кампаній.

Дзіма прыязджае дамоў штогод, а Гена ўжо тры гады, як не быў.

***— Рэгіна Мікалаеўна, Вы ўсё жыццё прысвяцілі людзям з перыферыі. Скажыце, калі ласка, толькі шчыра: ніколі не шкадуеце аб тым, што дзе-небудзь ў саліднай клініцы маглі б паўней раскрыць свае здольнасці?***

— Калі шчыра, то трошкі шкадую. Што і казаць, у раённай бальніцы сціплыя магчымасці. Можа ў вялікім горадзе, дзе ёсць лепшая база, я змагла б больш зрабіць для людзей. Але ж і тут, на Дзятлаўшчыне, заўсёды адчувала сябе патрэбнай.

**Гутарыла Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ЯДНАЕ ПРАГА ПЕРАМЕН

**У Слоніме прайшоў семінар "Правы грамадзян пры затрыманні, падчас судовых працэсаў і пры адміністратыўным арышце". Яго арганізавалі мясцовыя суполкі Свабоднага прафсаюза Беларускага пры падтрымцы фонду імя братоў Луцкевічаў.**

Некалькі дзесяткаў сяброў мясцовых свабодных прафсаюзаў і моладзі слухалі цікавую лекцыю юрыста з Гомеля, сябра амерыканскай асацыяцыі юрыстаў Віктара Ялфімава. Ён пазнаёміў прысутных з адміністратыўным правам, якое, па ягоных словах, вельмі часта звязана з дзейнасцю грамадскіх і прафсаюзных арганізацый у сённяшняй Беларусі. Віктар Ялфімаў распавёў прысутным пра заканадаўства Беларусі, якое рэгулюе правядзенні масавых мерапрыемстваў, пра правы грамадзян пры адміністратыўным затрыманні, пра віды адміністратыўных затрыманняў. "Сёння наша дзяржава не зацікаўлена, каб грамадзяне ведалі свае правы, але мы іх павінны ведаць", — сказаў Ялфімаў.

Шмат увагі падчас заняткаў удзялялася значэнню незалежнага прафсаюзнага руху. Па словах Віктара Ялфімава, за час яго існавання ў Беларусі ёсць і перамогі, і паражэнні. Ён згадаў забастоўку мінскага метрапалітэна ў жніўні 1995 года, якая была жорстка падаўлена ўладамі. Тады з Масквы прыехалі штрэйкбрэхеры, якія замянілі забастоўшчыкаў, а пасля атрымалі за работу з рук прэзідэнта гадзіннікі. "Калісьці зменіцца ўлада, і звольненыя рабочыя мінскага метрапалітэна будуць адноўлены на працы, атрымаюць кампенсацыю", — выказаў спадзяванне Ялфімаў.

Віктар Ялфімаў згадаў і цяжкае становішча прадпрымальнікаў, на якіх улады ціснуць праз адміністратыўнае права. "А гэта ж былыя рабочыя, настаўнікі, інжынеры, людзі, якія ўзялі ў свае рукі адказнасць за свой лёс. Яны плацяць падаткі дзяржаве, а іх ганьбяць, у іх канфіскоўваюць тавары", — сказаў Ялфімаў. Па ягоных словах, у Гомелі ўжо ёсць прэцэдэнты, калі юрысты свабодных прафсаюзаў дапамагалі прадпрымальнікам дабіцца справядлівасці праз суд. Цяпер гэтых людзей баяцца чапаць, іх паважаюць.

На думку гомельскага юрыста, сёння беларускі народ аб'ядноўваюць не нацыянальныя інтарэсы ці рэлігійныя пачуцці, а жаданне жыць лепш, прага перамен. А яны павінны адбыцца ў Беларусі канстытуцыйным шляхам, праз выбары, лічыць Віктар Ялфімаў.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ КНІГАРНІ

## *Новыя кнігі* ЛЕАНАРДЫ ЮРГІЛЕВІЧ...

**У Мінску ў бібліятэчцы часопіса "Вожык" выйшла з друку кніга нашай журналісткі Леанарды Юргілевіч "Грэшная душа".**




Кнігу склалі апавяданні і гумарэскі. Некаторыя з іх друкаваліся на старонках нашай газеты. Журналістка добра ведае жыццё людзей, побыт сваіх землякоў, іх мову і звычаі. Усё гэта робіць яе творы цікавымі і арыгінальнымі.

Кніга выйшла накладам 2600 экземпляраў, прыгожа аформлена мастаком Яўгенам Царковым.

## ... І АЛЕНЫ РУЦКАЙ

**Выдавецтва "Мастацкая літаратура" надрукавала дапаможнік для настаўнікаў "Пазакласная праца па беларускай літаратуры".**




Аўтар яго — Алена Руцкая. У кнізе разглядаюцца розныя формы пазакласнай працы па беларускай літаратуры, падрабязна апісваецца прадметны тыдзень па беларускай літаратуры і мове, даецца методыка яго правядзення. Друкуюцца ў падручніку таксама ўзоры ранішнікаў, конкурсаў, віктарын, вечароў, сцэнарыі гульняў і свят у школе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЮБІЛЕЙ

## НАШ ЧАЛАВЕК У ГЕРМАНІІ



**Споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння нашага земляка кандыдата філалагічных навук, кіраўніка аддзялення беларуска-нямецкага грамадска-культурнага ўзаемадзеяння Інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Уладзіміра Сакалоўскага.**

Уладзімір Сакалоўскі нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы Слонімскага раёна. Скончыў Азярніцкую сярэднюю школу і факультэт замежных моў Гродзенскага педагагічнага інстытута.

Настаўніцкую працу пачаў у Мастоўскім раёне, працаваў дырэктарам Зяльвянскай, Лупачскай, Мастоўскай школ. Пасля некалькі гадоў займаў пасаду перакладчыка ў Германіі.

У 1977 годзе наш зямляк абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі перыяду Веймарскай рэспублікі".

Цяпер Уладзімір Сакалоўскі шмат працуе над пашырэннем беларуска-нямецкіх сувязей. Ён выдаў некалькі кніг, а таксама пераклаў на беларускую мову манаграфію Анжэя Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме.

Уладзімір Сакалоўскі вельмі часта прымае ўдзел у міжнародных канферэнцыях і з'ездах. Яго даклады, прысвечаныя беларуска-нямецкім культурным сувязям, выклікаюць вялікую цікавасць не толькі ў Беларусі, але і ў Германіі. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца яго пошукі ў архівах, якія датычаць беларускай культуры ў час першай сусветнай вайны. У архівах Германіі наш зямляк знайшоў шмат беларускіх выданняў, якія выходзілі ў Беларусі з 1905 па 1920 гады. У іх шмат публікацый пра Слонім, Баранавічы, Зэльву, Навагрудак.

Многія артыкулы Уладзіміра Сакалоўскага друкуюцца ў германскіх выданнях.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ДЕНЬ ПАМЯТИ

**Недавно слонимское религиозное объединение мусульман провело на своем мизаре (кладбище) поминальный съезд.**

На съезде присутствовало более 100 человек. Мусульмане приехали также из Бреста, Барановичей, Минска, Ляхович, Новогрудка, Лиды, Ружан, Бытеня, Озерницы, а также из Польши. Родители пришли со своими детьми и внуками, чтобы они знали могилы своих предков, чтобы продолжалась традиция.

На слонимском мусульманском мизаре, история которого насчитывает более 200 лет, были совершены молитвы за души умерших, роздана садога (кондитерские изделия). Поминальный съезд будет проводиться ежегодно в первую субботу июня. А через несколько лет мусульманская община отметит 285-летие со дня своего образования. Совет общины просит мусульман из других городов, где распространяется "Газета Слонімская", обращаться по всем вопросам в совет по тел. 2-23-83 (Слоним).

**Сулейман БАЙРАШЕВСКИЙ,**
председатель религиозного объединения мусульман г. Слонима

## Летнее расписание движения ПАССАЖИРСКИХ ПОЕЗДОВ по станции Слоним



| № ПОЕЗДА | | СООБЩЕНИЕ | ПРИБ. | СТОЯНКА | ОТПР. |
|---|---|---|---|---|---|
| 615 | ежедн. | Минск-Гродно | 1.03 | 2 | 1.05 |
| 616 | ежедн. | Гродно-Минск | 2.59 | 7 | 3.06 |
| 119 | ежедн. | Брест-Гродно | 3.04 | 6 | 3.10 |
| 6040 | пн | Гродно-Баранавичи | 4.00 | 5 | 4.05 |
| 247 | ч/з 4 дня | Днепропетровск-Гродно | 4.03 | 7 | 4.10 |
| 6034 | ежедн. | Гродно-Барановичи | 6.11 | 2 | 6.13 |
| 6031 | ежедн. | Барановичи-Гродно | 9.42 | 5 | 9.47 |
| 6423 | сб., вс. | Барановичи-Волковыск | 10.54 | 2 | 10.58 |
| 6425 | ежедн. | Барановичи-Волковыск | 12.57 | 2 | 12.59 |
| 6424 | сб, вс. | Волковыск-Барановичи | 13.48 | 5 | 13.53 |
| 6605 | пт, сб, вс | Баранович-Гродно | 15.07 | 1 | 15.08 |
| 120 | ежедн. | Гродно-Брест | 16.36 | 2 | 16.38 |
| 6426 | ежедн. | Волковыск-Барановичи | 17.56 | 2 | 17.58 |
| 6036 | ежедн. | Гродно-Барановичи | 18.53 | 1 | 18.54 |
| 6606 | пт, сб, вс | Гродно-Барановичи | 20.56 | 2 | 20.58 |
| 6033 | ежедн. | Барановичи-Гродно | 22.06 | 2 | 22.08 |
| 248 | ч/з 4 дня | Гродно-Днепропетровск | 23.54 | 5 | 23.59 |
| 6039 | пт. | Барановичи-Гродно | 23.58 | 2 | 24.00 |

Газета Слонімская
15 — 21 чэрвеня, 2000г. № 25 (158)

# Кожнае пакаленне нашых продкаў ВЫБІРАЛА СВАБОДУ

**(Заканчэнне, пачатак у № 24)**

У Парыжы Міхал Валовіч прымае чынны ўдзел у эмігранцкім жыцці. Ён быў сябрам Лялевеля і прыхільнікам яго ідэй. У гэты час патрыятычныя эмігранцкія колы збліжаюцца з Вярхоўным кіраўніцтвам тайнага карбанарскага Інтэрнацыяналу і чынна рыхтуюцца распачаць у першай палове 1833 года агульнаеўрапейскае паўстанне прыгнечаных народаў супраць манархаў Еўропы. У поспех такога паўстання шчыра паверыў і Міхал Валовіч, асабліва тады, калі за падрыхтоўку і правядзенне яго на Беларусі ўзяўся палкоўнік Юзаф Заліўскі, адзін з арганізатараў лістападаўскага паўстання 1830 года ў Польшчы. Яго ідэя зводзілася да арганізацыі шырокага вызваленчага партызанскага руху. Паводле планаў Заліўскага, на Беларусь павінны былі выехаць усе патрыётыэмігранты і ў сваіх родных мясцінах пачаць барацьбу за вызваленне сялян ад паншчыны, надзяленне іх зямлёй і аб'яўленне вайны расійскаму паняволенню. Для апаратўнага кіраўніцтва паўстаннем уся тэрыторыя Беларусі была падзелена на акругі, у склад якіх увайшло па два паветы. Міхал Валовіч згадзіўся стаць паўстанцкім начальнікам слонімска-навагрудскай акругі. Была пастаўлена задача, каб на пачатку паўстання ўсе кіраўнікі акругаў знаходзіліся на месцы і падрыхтавалі сялян да актыўных выступленняў супраць манархаў, найперш расійскага.


Міхал ВАЛОВІЧ

У пачатку сакавіка 1833 года групы патрыётаў з фальшывымі пашпартамі рушылі на Бацькаўшчыну. Не ўсе дасягнулі месца прызначэння: адных арыштавалі, другія не вытрымалі цяжкасцей блукання па чужых краінах і вярнуліся. Але найбольш здатныя, як было дамоўлена, да 19 сакавіка перайшлі мяжу і прыступілі да падрыхтоўкі паўстання. Сярод іх быў і Міхал Валовіч са сваім памочнікам Язэпам Яцкевічам.

Спачатку Валовіч хаваўся ў сяброў, шукаў патрэбных яму людзей. Абшарнік Шабанскі дапамог яму знайсці былога прыгоннага, а пасля эканома яго бацькі, Міхала Песакоўскага, які жыў у фальварку Яловікі, што знаходзіўся за Шчарай у 4 вярстах ад маёнтка Парэчча. Нейкі час Валовіч хварэў, яго лячыў доктар Ізідар Нагумовіч з Ваўкавыска. Многія людзі давалі дапамогу паўстанцу, рызыкуючы сваёй свабодай, і ніхто яго тады не выдаў.

Валовіч хутка сфарміраваў невялікі партызанскі атрад з мясцовых людзей. Для сувязі з падполлем у Вільні туды быў пасланы Яцкевіч, але па дарозе ён быў арыштаваны. Не маючы пра яго ніякіх звестак, Валовіч вырашыў дзейнічаць самастойна. З мэтай здабыцця сродкаў быў здзейснены няўдалы напад на паштовую брычку, якая перавозіла казённыя грошы. За гэтыя сродкі планавалася закупіць зброю і пасля здзейсніць напад на слонімскую турму, дзе знаходзіліся зняволеныя паўстанцы...

Улады адразу ж пачалі пошукі паўстанцаў, аднак першыя дзве аблавы не далі вынікаў. Мясцовае насельніцтва было запалохана, што ў выпадку дапамогі "бунтаўшчыкам" або непаведамленні пра іх месцазнаходжанне, яно будзе жорстка пакарана. Валовіч, тым часам, удала выводзіў свой атрад ад пераследу. Калі стала немагчыма схавацца на Слонімшчыне, паўстанцы перабраліся ў навагрудскія лясы.

Не мог ведаць капітан літоўскай кавалерыі Міхал Валовіч, што яго захопам займаецца генерал-маёр Міхаіл Мураўёў, Гродзенскі грамадзянскі губернатар. А непасрэдна яго шукаў ураднік па асобых даручэннях маёр Галянкоўскі. Для "зачыстак" у лясах выкарыстоўвалі да 1500 сялян і вайскоўцаў.

Тым часам у Міхала Валовіча з'явілася магчымасць павялічыць колькасць сваіх партызан, бо 10 траўня недалёка ад паштовай станцыі Дзедаў Слонімскага павета ў лес уцяклі 28 палонных паўстанцаў, якія раззброілі свой канвой. Каб не дапусціць аб'яднання паўстанцаў, на іх пошукі было кінута звыш 10 тысяч салдат, паліцыянтаў і сялян.

Міхал Валовіч быў схоплены, пры затрыманні аказваў супраціўленне. Пра яго арышт быў зроблены даклад самому расійскаму імператару. На допытах Валовіч трымаўся годна, праявіў выключную мужнасць, нічога не расказаў катам пра паўстанцкую арганізацыю. Яго і 10 яго жывых паплечнікаў аддалі пад ваенковы суд. 21 ліпеня (2 жніўня па новаму стылю) Міхал Валовіч быў павешаны ў Гродне. Пазней каты тайна схавалі цела героя, каб ніхто не мог яго адшукаць. Бо на Гродзеншчыне ўжо былі выпадкі, калі целы расстраляных рускімі паўстанцаў таемна ноччу адкопвалі сваякі і сябры ды хавалі на мясцовых могілках або ў фамільных склепах.

Паплечнікі Валовіча былі пакараны біццём бізунамі і розгамі, высылкай у Сібір, бабруйскую крэпасць, накіраваннем у рэкруты... Пад следства трапілі і людзі, якія хавалі, лячылі Валовіча. Быў арыштаваны нават уніяцкі святар парэцкай царквы Марцін Якутовіч. Гэтай акцыяй расійская ўлады імкнуліся запалохаць мясцовую шляхту і сялян, пазбавіць іх жадання супраціўляцца царскаму рэжыму.

У міжваенныя часы ў Гродне, на месцы, дзе быў павешаны наш зямляк, з'явіўся "пляц Валовіча". А на яго радзіме ў Парэччы побач з царквой быў пастаўлены прыгожы белы мармуровы помнік. На жаль, у 1940 годзе ўсё гэта было знішчана бальшавікамі і забыта. Уніяцкая царква, якая знаходзілася побач з маёнткам Парэчча, па загаду Мураўёва была разбурана, а на яе месцы пабудавалі каменную праваслаўную "мураўёўку", якую ў савецкія часыператварылі ў калгасны склад, а пасля спалілі. Па сядзібе Валовічаў, абсаджанай некалі ліпамі, нядаўна пралажылі магістральны газапровад "Дружба". Сяляне, якія жывуць у навакольных вёсках, пазбаўленыя савецкай уладай уласнай зямлі, за якую змагаліся іх продкі і якія мелі вялікую ласку да яе, цяпер абрабляюць яе калектыўна, і жывуць у беднаце і жабрацтве. Той луг насупраць маёнтка ва ўрочышчы Доўгае, які даваў сена, якога хапала для паўвёскі пракарміць зімою жывёлу, у мінулым годзе пайшоў пад снег няскошаным...

**Аляксандр ТАЛЕРЧЫК,**
**г. Гродна**

кніга ў газеце

## Васіль СУПРУН. «Дзеі над Шчарай» *(з гісторыі зямлі Слонімскай)*

Вельмі павольна вярталася жыццё і ў сельскую мясцовасць. Мабілізацыя мужчын і адпраўка іх на фронт у пару ўборкі ўраджаю, катастрафічная нястача ні коней, ні вазоў, ні сельскагаспадарчага інвентару паралізавалі сельскагаспадарчую дзейнасць. А савецкая ўлада, нягледзячы ні на што, ужо даводзіла планы нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Праводзілася абавязковая падпіска на трэцюю дзяржаўную ваенную пазыку, збор сродкаў на танкавую калону для фронту. Вымяталася ўсё. А для таго, каб упэўніцца ў цвёрдасці пралетарскай дыктатуры на "вызваленых" тэрыторыях, сюды з усходу засылаліся ўсё новыя і новыя плыні надзейных партыйных работнікаў. Усіх, хто быў пад нямецкай акупацыяй, вышэйшыя ўлады лічылі ненадзейнымі, у нечым вінаватымі перад савецкімі законамі. Новая ж плынь несла з сабой і бальшавіцкую культуру, і новы дыктат. Былыя партызанскія кадры, выжытыя з цёплых кіруючых месцаў, каб утрымацца бліжэй да ўлады, выслужваліся і выконвалі ўсё з перавыкананнем плана. Планы ж даводзіліся не толькі на нарыхтоўкі сельгаспрадукцыі, падаткі, пазыкі, але і на пастаўку "рабсілы" на заводы Урала і Сібіры.

Толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў удалося адбудаваць знішчаныя партызанамі сельскія школы, а ўвесь гэты час школы туляліся па прыватных непрыстасаваных будынках вяскоўцаў. Нярэдкай з'явай вясковага жыцця былі і зямлянкі.

У канцы верасня 1944 года ў Слоніме пачала працаваць адзіная ў раёне І-ая сярэдняя (беларуская) школа. Значна пазней адчыніліся яшчэ дзве гарадскія школы. А да ліпеня 1945 года былі адноўлены гарадская электрастанцыя, водаправод, тартак, млын, мылаварня, рамонтная майстэрня. У сакавіку 1946 года распачаты работы па аднаўленні ткацкай арцелі "Бальшавік". Да мая таго года выпусціла сваю першую прадукцыю кардонная фабрыка "Альбярцін", уступілі ў лік дзеючых і іншыя прадпрыемствы горада. Павольна аднаўляўся і жылы фонд, у асноўным за лік перавозу вясковых хат і перасялення сялян. Аднак да 1949 года ў горадзе налічвалася ўсяго толькі 813 дамоў. Шырока распаўсюджанае хабарніцтва і подкупы сталі прычынай забудовы цэнтра горада будынкамі, перавезенымі з вёсак. Рэзка мяняўся выгляд былога горада, па цэнтры якога ганялі статкі прыватнай жывёлы, а між руінаў пасвіліся козы.

І ўсё ж край залечваў раны, нанесеныя працяглай і крывавай вайной, якая закончылася 9 мая 1945 года. А праз некалькі месяцаў Беларусь стала прызнанай у свеце дзяржавай — сузаснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

З фронту вярталіся ўцалелыя мужчыны, і гэта прыкметна ажывіла жыццё горада і вёскі, але і актывізавала наплыў розных чужых элементаў пераважна з усходу. У руках іх са згоды партыйнага і савецкага кіраўніцтва хутка апынулася ўся мясцовая ўлада. Бальшавіцкія атрыбуты — п'янства, хамства, нахрап і хлусня — захліснулі край. У ход пайшоў гвалтоўны наступ на ўсё беларускае: культуру, мову, гісторыю, нацыянальныя правы, традыцыі і веру. Зневажаліся і ганьбіліся святыні народа. Ішоў спланаваны шквал абалваньвання насельніцтва, і ў першую чаргу — моладзі. Гвалтоўна насаджваліся русіфікацыя, бязбожніцтва і сэксоцтва, усё гэта выдавалася за савецкі патрыятызм. Тых, хто імкнуўся размаўляць па-беларуску, ці меў дачыненне да беларускай культуры, спецорганы бралі на асобы ўлік, як нацыяналістаў, за імі ўзмацняўся нагляд. Даваенны тэрмін "вораг народа" зноў заставаўся ўжываным. Любы пратэст супраць несправядлівасці расцэньваўся, як "выступленне супраць савецкай улады", што пагражала палітычнай расправай. Насельніцтва ведала, што за адну неасцярожную фразу давалі па 10 год канцлагераў.

80

Усё гэта нагадвала нядаўнюю фашысцкую акупацыю сваёй антыбеларускай накіраванасцю. Свядомая беларуская інтэлігенцыя і студэнцтва не маглі не заўважаць гэтай дыскрымінацыі і нацыянальнага зневажання. Таму ўжо ў пачатку 1946 года ў Заходняй Беларусі — там нацыянальнае ўдушэнне прымала найбольш жорсткі характар — стыхійна ўзнікалі таемныя групы пратэсту супраць таталітарнага сталінскага рэжыму, якія затым ператвараліся ў падпольныя патрыятычныя рух у абарону правоў свайго народа.

Рэакцыяй на антыбеларускую палітыку рэжыму было і стварэнне вясной 1946 года сацыял-дэмакратычнага патрыятычнага падполля на Слонімшчыне, канспіратыўна названага "Чайка". Пачатковым ядром арганізацыі была група настаўнікаў, студэнтаў і выпускнікоў сярэдняй школы горада Слоніма. На ўстаноўчым сходзе прысутнічалі: В. Супрун, М. Ракевіч, М. Чыгрын, А. Гардзейка, Л. Кавальчук і Н. Карач. Асноўнай мэтай арганізацыі было абуджэнне свядомасці беларускага народа, барацьба за яго нацыянальныя і сацыяльныя правы і свабоды, за захаванне і развіццё роднай мовы, культуры, гістарычнай спадчыны, выхаванне і папаўненне радоў патрыётаў. У хуткім часе арганізацыя ўключыла ў свой склад Баранавіцкую, Брэсцкую, Жыровіцкую падпольныя групы. А ўлетку 1946 года быў ужо утвораны падпольны Цэнтр беларускага вызваленчага руху (ЦБВР) у складзе 6 чалавек — В. Супрун (кіраўнік), А. Барэйка і М. Ракевіч (намеснікі), М. Макарэвіч (ад Брэста), У. Салавей (ад Слоніма), М. Агейка (ад Баранавіч і Навагрудка). У 1947 годзе арганізацыя мела свае падпольныя групы ў Баранавіцкай, Брэсцкай, Пінскай і Маладзечанскай тагачасных абласцях. Рабіліся неаднаразовыя спробы выхаду на Менск і Гародню. Але ў тым жа 1947 годзе патрыятычнае беларускае падполле было ў асноўным разгромлена бальшавіцкімі карнымі органамі. Разрозненыя нізавыя групы, якія засталіся на волі ў Слоніме, Глоўсевічах і іншых месцах фактычна перасталі існаваць.

Як стала вядома пазней, падпольныя патрыятычныя групы існавалі самастойна ў Глыбоцкім і Пастаўскім педвучылішчах, яны называлі сябе Саюзам беларускіх патрыётаў (СБП), існавала і Навагрудская група — Саюз вызвалення Беларусі (СВБ), пры аб'яднанні з якой "Чайка" і была раскрыта і разгромлена.

У 1946 і 1947 гадах Слонімшчына, як і суседнія раёны, была сведкай соцен апухлых ад голаду жыхароў усходніх раёнаў Украіны, дзе панаваў голад. Натоўпы ўкраінцаў шукалі ратунку на нашай зямлі. У гэты ж час на Слонімшчыне зноў пачыналася так званая "калектывізацыя сельскай гаспадаркі" — прымусова-добраахвотная арганізацыя калгасаў. Тых, хто не згаджаўся ўступаць у гэтыя калектыўныя гаспадаркі, улады даводзілі да торбы падаткамі і нарыхтоўкамі сельгаспрадукцыі, а затым высылалі ў Карэла-Фінскую і іншыя рэспублікі Саюза. Гэта быў перыяд сапраўднага глумлення над сялянствам і сельскай гаспадаркай краю. Працоўны ў калгасах усёй сям'ёй, за год людзі зараблялі торбу жыта, або і зусім нічога. Жыхарам сельскай мясцовасці не выдаваліся ніякія дакументы, каб не мелі магчымасці ўцячы ў горад ці іншы раён. Уводзіліся законы, па якіх за сабраную на зжатым полі кішэню каласоў калгаснікам давалі 7-8 гадоў турмы (згодна сталінскаму Указу). Вёскі галадалі горш чым у вайну. У магазіны амаль не паступалі ні харчовыя, ні прамысловыя тавары. Не выручала і картачная сістэма, бо атаварваць карткі не было чым, ды і выкупляць не было за што.

**(Пачатак у №44,45,47,51 за 98г., №8,11,14,17,19,23,26,28,29,32, 34-37,39-48,50,52 за 99г., №4,7,10,12,15,18,20,22,24 за 2000г.)**

81

